**Віктар Астрога**

# Геральдыка беларускіх вайсковых нарукаўных знакаў (1917 – 2000 г.г.)

**Даклады на канферэнцыі "Беларуская тапаніміка. Гісторыя і сучаснасць." 14 кастрычніка 2000 года**

У гэтым артыкуле будзе прааналізаваны комплекс нарукаўных знакаў, ранейшых і цяперашніх, што выкарыстоўваюцца для вызначэння прыналежнасці вайскоўцаў, як увогуле да Беларускага Войска, так і да яго асобных частак і падраздзяленняў. Матэрыял плануецца разглядзець паводле трох прынцыповых адрозных у гэтай галіне храналагічных перыядаў: 1917-1923 гг. (перыяда існавання беларускіх нацыянальных вайсковых фармаванняў па раздзелу Расейскай імперыі: 1941-1945гг.) перыяда II Сусветнай вайны; 1992-2000 гг. (стварэння і станаўлення сучаснага Беларускага Войска).

Нарукаўны знак ёсць графічны сімвал пэўнага вайсковага фармавання розных узроўняў альбо роду зброі (спецыяльнасці). Гэтая сістэма адзнакаў упершыню была ўжытая ў 1917 г. у Брытанскім войску і вельмі хутка распаўсюдзілася ў шмат якіх краінах свету. У прыватнасці ўжо ў 1917-1918 гг. гэтую сістэму па меры магчымасці выкарыстоўвалі польскія фармаванні, белыя войскі, бальшавікі, літіоўцы і інш. Але ў разнастайных беларускіх нацыянальных вайсковых аддзелах гэтыя працэсы праз фінансавыя і арганізацыйныя цяжкасці практычна не праявіліся. Так адзнакаю дружынаў Беларускай Цэнтральнай Вайсковай Рады былі невялікія стужкі нацыянальных колераў у выглядзе папулярнага тады банта ці нашытых на клапан кішэні альбо бераг фрэнчаў тыя ж невялічкія стужачкі. Нават у Беларускай Вайсковай камісіі пры ўсіх магчымасцях ў блізкасці яе арыгінальнай уніформы да еўрапейскіх узораў, нарукаўныя знакі адсутнічалі, а функцыю прыналежнасці да Беларускага войска выконвалі на фрэнчы каўняровыя нашыўкі нацыянальных колераў і вышытая срэбрам на чырвонай тарчы "Пагоня", што мейсцілася на наплечніках. Прыналежнасць да пэўнага роду зброі вызначаўся па каляровай аблямоўцы. Адзінаю беларускаю вайсковаю структураю, што мела падобныя нарукаўныя адзнакі, была 1-я Слуцкая брыгада стральцоў войскаў БНР, у якой камандны склад 2-га Грозаўскага палка насіў бел-чырвона-белыя апаскі.

Стварыць паўнавартасныя вайсковыя часткі з адметнаю ўніформаю і сімволікай беларусам не атрымалася і ў гады II Сусветнай вайны. Служачы на баку антыгітлераўскай кааліцыі і пранямецкіх збройных фармаванняў яны мусілі насіць вопратку і адзнакі чужых войскаў. За ўсю вайну толькі адныя нямецкія акупацыйныя ўлады пад цяжарам абставін вымушаны былі даць з 1942 г. частцы мясцовых збройных аддзелаў права на нашэнне сваёй уласнай уніформы і адрознай сімволікі. але праз эканамічныя цяжкасці практычна толькі БКА атрымала гэтую сціплую магчымасць насіць нацыянальныя эмблемы, аднак на чужым мундзіры.

У той час найбольш шырока распаўсюджанаю адзнакаю прыналежнасці да мясцовых беларускіх фармаванняў былі апаскі. З'явіліся яны фактычна з падачы немцаў, якія выкарыстоўвалі іх у дапапможных падраздзелах. Кшталтаў падобных беларускіх апасак магчыма налічыць звыш дзвух дзясяткаў. Найбольш адметнымі з іх былі вузкія і шырокія бел-чырвона-белыя апаскі Беларускай самааховы (БСА), тых жа колераў з эмблемаю Беларускай службы Бацькаўшчыны, чырвоная з "Пагоняй" наваградскага коннага швадрому Б. Рагулі. Побач з імі выкарыстоўваліся і ўзоры, якія не неслі аніякай выразнай нацыянальнай інфармацыі: чыста белыя апаскі хельфспаліцыі, белыя з чорным нумарам франтавых батальёнаў шуцпаліцыі, белыя з чорнаю нямецкаю абрэвіятураю WSS (БСА) і інш.

Найпершым нацыянальную адзнаку, менавіта ў выглядзе нашыўнога нарукаўнага знаку – гішпанская тарча нацыянальных колераў, з лютага 1943 г. пачаў насіць 13-ы беларускі батальён (Менск). Напрыканцы года рамбічную тарчу нацыянальных колераў меў і асабовы склад 60-га батальёну шуцпаліцыі (Баранавічы). Пасля абвяшчэння мабілізацыі ў БКА, яе жаўнеры і афіцэры, недзе ў сакавіку 1944 г. атрымалі бел-чырвона-белую нарукаўную нашыўку, кшталту гатычнай тарчы, з выявай Пагоні. Цікава заўважыць, што лідскі батальён БКА, маючы праблемы з набыццём гэтых знакаў, вынайшаў уласны – бляшаны крыж Ярылы. Па эвакуацыі ўлетку 1944 г. рэшткаў беларускіх частак на Захад, асабовы склад т.зв. Беларускага Войска на Чужыне з 27 кастрычніка на правым рукаве мусіў насіць гоцкую тарчу нацыянальных колераў з белым надпісам лацінкаю ўгары на шэрым тле "BELARUS". Аднак у фармаванай узімку 1945 г. 30-й дывізіі "Беларусь №1". наколькі вядома, быў запраектаваны прынцыпова іншы нарукаўны знак – на чорнай гішпанскай тарчы белы мальтыйскі крыж са скрыжаванымі мячамі. Толькі 1-шы Беларускі нацыянальны полк. які выйшаў у красавіку са складу дывізіі. меў тарчку беларускіх колераў.

Гэткім чынам, ужо ў ваенны перыяд, пэўны аб'ём нацыянальнай сімволікі, выпрацаваны ў 1917-1923 гг., пераўтвараецца ў нешматлікія. але ёмістыя і эстэтычна выкананыя нарукаўныя знакі, пабудаваныя выключна на выкарыстанні нацыянальнай калярыстыкі і выявы "Пагоні".

З утварэннем у 1991 г. суверэннай Беларсі ды пачаткам фармавання ўласных збройных сілаў перад тагачасным кіраўніцтвам Мінабароны паўстала праблема распрацоўкі нацыянальнай вайсковай сімволікі, але ў выніку, як паказаў час, распрацоўшчыкі нажаль амаль не ўлічылі традыцыяў у гэтай галіне БВК, БКА і інш, а выкарысталі фактычна распрацоўкі расейцаў, а таксама асобныя польскія, французскія ды інш. узоры.

Згодна рашэнню Рады Міністраў Беларусі з ліпеня па кастрычнік 1992 г. над нацыянальнымі вайсковымі сімваламі і эмблемамі працавала адмысловая камісія. Пры падвядзенні вынікаў адбыліся спрэчкі паміж прыхільнікамі "традыцыйнай" пяціканцовай зоркі і нацыянальнай беларускай "знічкі" або "валошкі". У рэшце рэшт перамог дагматызм, гістарычная недасведчанасць, галоўным вайсковым сімвалам была абрана срэбная зорка савецкага кшталту, хаця галоўным элементам аґульнавайсковай армацюры стала ўсё ж такі знічка. Гэтая група распрацавала і агульны знак нарукаўны. Першапачаткова на ім была запланавана выява срэбнай зоркі, але ў апошні момант вырашылі скапіраваць падобны расейскі і атрымалася: на чорнай польскай тарчы з жоўтаю (генералы) ці белаю аблямоўкаю была змешчана выява дзяржаўнага бел-чырвона-белага штандарту і надпіс (жоўтым) белым колерам "Беларусь – Узброеныя сілы". Дарэчы прапанавалася даць іншую афіцыйную назву войску "Беларускае войска" ці "Войска Рэс-




публікі Беларусь", аднак гэта не знайшло падтрымкі ў кансерватыўнага генералітэту і парламентарыяў. Пачалася распрацоўка і іншых нарукаўных знакаў, так былі выпрацаваны знакі для каманднай вучэльні і інжынернай, вельмі падобныя на агульны, толькі з лацінскай лічбаю дзеля адзначэння курсу. Але надалей справа замарудзілася.

Змена з траўня 1995 г. дзяржаўнай сімволікі адразу адбілася і на вайсковай. "Пагоня", бел-чырвона-белы сцяг, срэбны (белы металёвы прыбор) коляры аблямовак былі забаронены і зніклі з афіцыйнага ўжытку. Але гэты перыяд характэрызуецца спробамі пакінуць срэбра (белы коляр на агульным нарукаўным знаку ў выглядзе аблямоўкі і надпісаў і адпаведнага гэтаму у гэты час былі выраблены геральдычныя знакі 350-й аобнай брыгады мабільных сілаў з выяваю ваўка, 8-га асобнага дысбату з выяваю скарпіёна і найлепшы ўзор – 12-ты вучэбны полк сувязі з выяваю герба мейсца дыслакацыі – Нясвіжа і новаю




беларускаю эмблемаю войскаў сувязі. Аднак у хуткім часе было вырашана аб пакіданні толькі залатавага (жоўтага) колеру.

З траўня 1996 г. пача-




лася праца над стварэннем нарукаўных знакаў вайсковых частак, эмблемаў радоў зброі. Але яна, нягледзячы на відавочную патрэбу і ўхвалу ў войску, ішла вельмі марудна. У вайсковых частках пачалося стыхійнае, самастойнае стварэнне эскізаў і выраб нашывак за свой кошт. Свае нарукаўныя знакі захацелі атрымаць не толькі брыгады і базы, але і асобныя невялікія падраздзелы. Ствараючы іх вайскоўцы лічыліся са сваім густам, які не заўсёды дазваляў вынайсці арыгінальную, прыгожую і адпаведную ўсім геральдычным патрабаванням эмблему. У выніку, у 1997 г., Мінабароны вырашыла спыніць працу і адмяніць знакі. Акрамя абмежаваных фінансавых рэсурсаў, на наш погляд адыграў тут сваю ролю кансерватызм кіраўніцтва, маўляў, калі Савецкая Армія абыходзілася без гэтых знакаў, абыдзецца і Беларуская. А несумненна, гэта быў крок, які адсунуў наша войска назад ад еўрапейскіх стандартаў і нават ішоў насуперак меркаванню тысяч афіцэраў, прапаршчыкаў і жаўнераў. У выніку на сённяшні дзень існуюць толькі два афіцыйна зацверджаныя нарукаўныя знакі: агульны "УЗБРОЕНЫЯ СІЛЫ" і вайскова-медычны факультэт Менскага медінстытута. Астатнія ёсць парушэнне формы аддзення. Аднак і недазволенныя знакі актыўна носяцца, іх зацвярджае мясцовае вайсковае начальства. Таму мы маем поўнае права прааналізаваць і сучасную вайсковую геральдыку на прыкладзе шасцідзесяці ўзораў, па чатарох пазіцыях: выява знака, колеры, кшталт тарчы, мова надпісаў.

1. Выява знака. Найбольшаю папулярнасцю сярод вайскоўцаў карыстаюцца драпежныя жывёлы і птушкі, асабліва ваўкі ў дыверсантаў і выведкі і начніцы ў выведкі. Акрамя таго: скарпіён, сава, арол, рысь, ліса, тыгр, пантэра, сабака, лебедзь, бусел. Трапляе ў якасці выяў і разнастайная баявая тэхніка, парашуты, узнагароды, зброя, цэлыя альбо фрагменты гербоў гарадоў дыслакацыі – Віцебск, Нясвіж, Слонім.

2. Колеры. Базавых колераў налічваецца шэсць: жоўты, чорны, чырвоны, белы, зялёны, блакітны. Сярод якіх найчасцей сустракаюцца жоўты і чорны.

3. Кшталт тарчы. Тарчы выкарыстоўваюцца самай рознай формы: польскія, гішпанскія, французскія, фігурныя і інш.

4. Мова надпісаў. Больш паловы знакаў існуе з надпісам на расейскай мове




і тэндэнцыя павялічэння іх назіраецца. Але разам з тым, расейскамоўныя збольшага гэта знакі асобных падраздзяленняў, буйныя структурныя часткі Мінабароны часцяком замаўляюць сабе надпіс і па-беларуску.

Калі вызначыць частку, якая найлепш прэзентуецца з геральдычнага пункту гледжання, то гэта пэўна 5-я брыгада камандас (Мар'іна Горка), якая мае пяць уласных нарукаўных знакаў, не лічачы агульную "збраёнку" – эмблему "УЗБРОЕНЫЕ СІЛЫ". Адзін з іх мае ўвогуле ўнікальны характар, бо быў атрыманы яшчэ ў 1987 г. як адзнака элітнай асобнай (афіцэрскай) роты камандас і ўяўляе з сябе чорную лісу на тле чырвонай стралы на гішпанскай тарчы. Хаця агульная эмблема злучэння – крылаты воўк на тле парашута, вельмі нагадвае эмблему расейскіх паветрана-дэсантовых войскаў.

Гэткім чынам, на працягу ўсяго XX стагоддзя, мы можам назіраць, што ў больш-менш спрыяльныя для стварэння нацыянальнага войска перыяды беларусы імкнуліся вынайсці прыгожыя і арыгінальныя ўзоры нарукаўных знакаў. Напачатку 90-х гг. гэтыя традыцыі ў пэўнай ступені набылі новы подых, але падзеі сярэдзіны 90-х замарудзілі іх і павярнулі з большага ў бок савецка-расійскай геральдычнай сістэмы.

**Рэдактар Станіслаў Суднік**

***Заснавальнік:***
ТБМ імя Францішка Скарыны.
***Пасведчанне аб рэгістрацыі:***
№ 83 ад 28 чэрвеня 1996 г.
***Адрас рэдакцыі:***
220005, г. Менск, вул. Румянцава, 13.
***Адрас для паштовых адпраўленняў:***
231300, г. Ліда-2, п/с 7.
[illegible]1.lingvo.grodno.by

***Рэдакцыйная калегія:***
Людміла Дзіцэвіч, Алесь Гурыновіч,
Ірына Марачкіна, Леакадзія Мілаш,
Язэп Палубятка,
Алесь Петрашкевіч, Уладзімір Содаль,
Станіслаў Суднік,
Павел Сцяцко, Алег Трусаў.

***Аўтары цалкам адказныя за падбор і дакладнасць прыведзенай інфармацыі***

Газета надрукавана ў Лідскай друкарні.
231300, г.Ліда, вул. Ленінская, 23.
Газета падпісана да друку 8. 11. 2000 г.
Наклад 2900 асобнікаў. Замова № 2829
*Падпісны індэкс:* 63865.
*Кошт падпіскі:* 1 мес.- 171 руб., 3 мес.- 513 руб.
*Кошт у розніцу:* 50 руб.